



# Рэгіянальная газета

19 ліпеня 2013 года
№ 29 (951)




http://rh.by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".




**Алена Мікульчык: "Гатуючы старажытныя стравы, я пачала станавіцца гісторыкам"**
20-я старонка



**Нарач: купайцеся на абсталяваных пляжах**
23-я старонка



## навіны рэгіёна

### Адбудзецца фестываль традыцыйнай культуры

**АШМЯНЫ.** Ён пройдзе 24 жніўня ў Гальшанскім замку. Мерапрыемства арганізоўваюць сумесна з Літвой. Пакуль арганізатары трымаюць у сакрэце, як усё адбудзецца. Але фестываль захавае свае традыцыі: паўсюль будзе гучаць старажытная музыка, гледачы змогуць атрымаць майстаркклас па бальных танцах, а майстры-рамеснікі ўпрыгожаць свята сваімі працамі.

### У медустановах змяніліся тэлефонныя нумары

**МАЛАДЗЕЧНА.** Гэта звязана з уводам новай АТС. Ад 11 ліпеня некаторыя нумары тэлефонаў у горадзе змяніліся на новыя. Аб іншых змяненнях інфармацыю можна атрымаць у "Белтэлекаме" па нумары **(80176) 771166.**

| | |
|---|---|
| **Цэнтральная раённая бальніца:** | |
| Прыёмны пакой №1 | 58-04-41 |
| Прыёмны пакой №2 | 58-04-16 |
| Хірургічнае аддзяленне №2, ардынатарская | 58-04-47 |
| Оталарынгалагічнае аддзяленне, ардынатарская | 58-04-49 |
| Аргметададдзел бальніцы | 58-04-42 |
| Намеснік галоўнага бухгалтара, разліковая група | 58-04-45 |
| Інжынеры | 58-04-43 |
| Канцылярыя | 58-04-48 |
| Галоўны бухгалтар | 58-04-50 |
| **Псіханеўралагічны дыспансер:** | |
| Галоўны доктар | 50-05-04 |
| Кабінет псіхіятра | 58-04-03 |
| Рэгістратура | 58-04-05 |
| **Дзіцячая стаматалагічная паліклініка:** | |
| Галоўны доктар | 58-05-05 |
| **Жаночая кансультацыя:** | |
| Кабінет сельскага прыёму, кабінет спецпрыёму | 58-04-37 |
| **Радзільны дом:** | |
| Загадчык | 58-04-39 |
| Радзільны блок | 58-04-38 |
| **Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі:** | |
| Галоўны доктар (прыёмная) | 58-04-40 |
| **Паліклініка №2:** | |
| Загадчык гаспадаркі | 58-04-06 |

**Аддзел інфармацыі.**



# На 150 метраў дарогі – 193 яміны

## Праезд у дварах, уздоўж гімназіі №6 да "Космаса", цалкам разбіты




Фота Настассі РОЎДЫ.

**Сярод людзей, якія ходзяць па праездзе ўздоўж гімназіі №6 да "Космаса", шмат нераўнадушных і занепакоеных дрэнным станам гэтых 150 метраў дарогі.** Працяг тэмы на 6-й старонцы.

**МАЛАДЗЕЧНА. Па гэтай дарозе штодзень праходзяць і праязджаюць сотні людзей: на ровары, з каляскай, з кійком, на машыне ці проста так.**

У кожнага свае справы, але ёсць і тая, што аб'ядноўвае ўсіх: акцыя "Зрабіце нам дарогу", якую ладзіла "Рэгіянальная газета", адбылася на гэтым праездзе 12 ліпеня.

Не ўсе пагадзіліся сфатаграфавацца. Адна жанчына сказала: "Я толькі за тое, каб дарогу зрабілі, але баюся, што на другі дзень з працы звольняць!" Аднак абсалютная большасць удзельнічала з вялікай ахвотай.

Ліст у "Камунальнік" з просьбай зрабіць дарогу мы адаслалі ў панядзелак, 15 ліпеня. Туды ўклалі матэрыял мінулага нумара, у якім пісалі пра стан дарогі. Цяпер чакаем адказ.

**Рэдакцыя "РГ".**

ГЭТА ЦІКАВА!

# Узгоркі ў Рэчках



Фота забяспечана Галінай СІНІЦАЙ.

Па легендзе ў гэтай мясцовасці быў замак, у якім жыў злы і жорсткі князь.

**ВІЛЕЙКА. Калі выязджаеш з вёскі Рэчкі Вілейскага раёна, бачыш надпіс – Рэчкінскія ўзгоркі.**

У рэальным жыцці гэты знак можна проста не заўважыць, не звярнуць увагі на тое, што там напісана. Мяне ж ён прывабіў сваёй легендай, якую калісьці расказаў сябар **Мікалай Шмідт**:

– Даўней у нашай мясцовасці была цікавая легенда пра тое, што тут быў замак, у якім жыў злы і жорсткі князь. Усё жыццё збіраў золата і захоўваў у самай вялікай вежы. Але аднойчы пасля праклёну замак нібы праваліўся пад зямлю, ад яго засталіся толькі высокія горы і пячора – нібы ўваход у замак.

Пасля пачутага засталося шмат пытанняў: дзе тое месца, як выглядае, ці знаходзілі людзі там каштоўнасці, іншыя. Вырашыла дазнацца, дзе тое месца, ці сапраўды ўзгоркі там такія вялікія, горы вялікія, і пабываць там сама.

## Гара не давала падняцца наверх

Вяла нас да ўзгоркаў **Галіна Шмідт**, маці майго сябра. Той жа спаслаўся на тое, што ўжо дакладна не памятае, як туды ісці, а калі завядзе, то ніколі не выйдзем.

Спачатку ішлі па звычайным лесе: дрэвы, невялічкая сцежачка, паабапал якой растуць суніцы. Паступова, з цяжкасцю, бо чапляліся за галінкі елак, а пад нагамі было шмат слізкай пасля дажджу лістоты, пачалі падымацца ўгору. І вось нарэшце мы прыйшлі. Перад намі вырасла сапраўдная гара, унутры якой былі невялікія норы, заваленыя камянямі.

Наверсе гары вытыркалі карані дрэў. Але нам трэба было яшчэ падняцца. Мне гэта ўдавалася з цяжкасцю. Увесь час ногі цягнулі ўніз. Таму мой больш спрытны сябар трымаў мяне за руку, дапамагаў. Але і ў яго не абышлося без здарэнняў. Пакуль лез, парваў майку. Усю зваротную дарогу смяяўся з таго, што гэта падарожжа запомніцца яму надоўга.

## Сабак нельга было загнаць у норы

Галіна Шмідт тлумачыла, што норы вельмі маленечкія, залезці туды вельмі складана. Раней жа сюды прыязджалі археолагі, гісторыкі, якія імкнуліся праверыць, наколькі яны доўгія. Пускалі ў іх сабак, але некаторыя выходзілі настолькі перапалоханыя, што загнаць іх назад было проста немагчыма. Старыя людзі кажуць, што норы выходзяць ажно ў іншай вёсцы, але праверыць гэта цяжка.

Мяне цікавіла яшчэ і тое, ці знаходзілі людзі калісьці тут залатыя рэчы, каштоўнасці, усё такі ж па легендзе гэта былы княскі палац.

– Раней гаварылі, што знаходзілі, але не ведаю, наколькі гэта праўда, – распавядае Галіна Шмідт. – Памятаю, што наш сусед таксама капаўся ў гэтых месцах, імкнуўся нешта знайсці. Не атрымалася. Прыходзіла моладзь, таксама нешта шукала. Пасля ж паставілі шыльду, што раскопкі забараняюцца. Людзі і адхлынулі. Самі бачыце, як зараслі сцежачкі.

Пра праклящце таксама ўжо ніхто не гаворыць.

## Папова гара – месца для мясцовых аматараў экстрыму

Затым паехалі на Папову гару. Знізу яна выглядала як вялікая горка, на якой можна было катацца зімой на санках. Падымаліся – Коля ўспомніў сваё дзяцінства:

– Маленькім хлопчыкам з сябрамі лазілі на гару, каталіся на санках. Страшна было, але ўсё роўна гара да сябе цягнула. Цяпер бачу, як некаторыя шалёныя катаюцца тут на матацыклах. Нехта ж стараецца патрапіць сюды і на машыне. Аднак яна едзе толькі да паловы гары, пасля ж з'язджае ўніз, што ты з ёй ні рабі. На Купалле тут паляць ведзьму. Вось яшчэ захаваліся нядаўнія сляды ад вогнішча.

Галіна Шмідт узгадвала, што калісьці тут хацелі пабудаваць нейкую лыжную базу, аднак…

Я ехала з Рэчак у самым добрым настроі. Думала аб тым, колькі чароўных месцаў у нашай мясцовасці. І наколькі мала мы ведаем пра іх. Абмінаем, праходзім праз гэтыя мясціны, а гэта ж наша гісторыя, спадчына продкаў.

**Галіна СІНІЦА.**

ПАМЯЦЬ

# Памёр Кастусь Харашэвіч



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**МАЛАДЗЕЧНА. 12 ліпеня на 87-м годзе жыцця памёр старэйшы мастак нашага рэгіёна Кастусь Харашэвіч.**

Кастусь (Канстанцін) Іванавіч Харашэвіч нарадзіўся 6 ліпеня 1927 года ў вёсцы Літва цяперашняга Маладзечанскага раёна. Сялянскі сын вёскі ў Заходняй Беларусі змалку зведаў нястачу. Але нягоды толькі загартоўвалі ў маленькім Кастусю характар і настойлівасць.

“Калі нікога не было ў хаце, – згадваў пазней у сваіх успамінах мастак, – я даставаў вугалёк з прыпечка і на жоўтых дошках падлогі нешта крамзоліў. Купілі мне аловак. Клаў яго на ноч пад падушку, каб не згубіўся. Але асабліва маляваць не было на чым. Жыццё заходнебеларускіх грамадзян было незайздроснае...”

Не атрымаўшы да вайны якой-кольвек спецыяльнай адукацыі, Кастусь, ужо пасля верасня 1939 года, самастойна стараўся авалодаць сакрэтамі жывапісу. Але гэта былі толькі першыя спробы таленавітага юнака.

Сапраўдным мастаком ён становіцца ў 1960-я, пасля заканчэння ў 1958 годзе Мінскага мастацкага вучылішча. Харашэвіч раскрываецца як самабытны пейзажыст. Паступова ў цэнтр яго творчасці перамяшчаецца беларуская гісторыя. Ён працуе над партрэтамі герояў беларускай гісторыі: Кастуся Каліноўскага, Янкі Купалы, Францішка Багушэвіча, Вацлава Ластоўскага, Барыса Кіта...

Тое, што Кастусь Харашэвіч быў вучнем вядомага сёння на ўвесь свет навукоўца-астранаўта Барыса Кіта, вучыўся падчас нямецкай акупацыі ў гандлёвай школе ў Маладзечне, быў удзельнікам Саюза Беларускай моладзі, пазней, ужо сталаму мастаку, не маглі дараваць савецкія ўлады.

Не набыўшы сталічнага лоску, застаючыся мастаком правінцыі, не атрымаўшы ганаровых званняў, ён тым не менш стаў постаццю ў беларускім выяўленчым мастацтве.

Адносячы палатно Кастуся Харашэвіча “Пасля навальніцы”, напісанае ў 1984 годзе, да прыналежных 100 твораў, трэба разумець, лепшых твораў беларускага мастацтва, крытык Сяргей Харэўскі кажа пра яго: “Не зважаючы на невялікі памер гэтага палатна Харашэвіча, гэта манументальная рэч. Гэткі эфект дасягнуты маніпуляцыяй з прапорцыямі неба й зямлі. Неба заўсёды большае.... А таксама пералікам рознапамерных аб'ектаў: дрэвы, дамы, шпіц званіцы, высачэзная й танюткая антэна. Яны знітоўваюць па вертыкалі неба й зямлю, на якой самы маленькі аб'ект – людзі...”

Кастусь Харашэвіч разам з Ядвігай Раздзялоўскай сталі ля вытокаў маладзечанскай мастацкай школы, прадстаўнікі якой сёння далёка вядомыя за межамі нашай радзімы.

Акрамя мастацкага таленту, у Кастуся Іванавіча было развітае тонкае пачуццё справядлівасці і праўды. Менавіта таму ён у свой час прыйшоў у “Рэгіянальную газету” з публіцыстычнымі нататкамі аб нашым жыцці, месцы чалавека ў гісторыі і грамадстве. Яму балела сэрца за беларускасць і лёс беларушчыны, за тое, што траціцца сувязь часоў і пакаленняў.

У сваім інтэрв'ю год таму Канстанцін Іванавіч сказаў: “Зразумейце, я такі! Таму малюю чорным”.

Чорныя фарбы, якія пераважалі ў палітры мастака Харашэвіча, не забілі ў ім светлага чалавека, якім ён заставаўся да канца сваіх дзён.

**Рэдакцыя “Рэгіянальнай газеты” выказвае самыя шчырыя спачуванні ўдаве нябожчыка Надзеі Рыгораўне, сябрам і блізкім мастака.**

**Рэдакцыя.**

ПЛЕНЭРЫ

# Кітаянка стварае скульптуру для Мядзела

**МЯДЗЕЛ. У райцэнтры цяпер праходзіць пленэр разьбяроў. Сюды прыехалі студэнты кафедры скульптуры Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў.**

Іх кіраўнік – **Аляксандр Фінскі**.

У пленэры ўдзельнічаюць восем студэнтаў. Сярод іх і кітаянка **Шунін Чэн**. Яна працуе над творам, у цэнтры якога – вобраз дзіцяці.

**– А хлопчык у вас будзе падобны да беларускага ці кітайскага? – пытаюся.**

– Пастараюся зрабіць еўрапейскага выгляду, – усміхаецца Шунін.

**– А як узнікла ідэя такога твора: раней прыдумалі ці тут з'явілася?**

– Тут ідэя прыйшла.

**– Раней ці чулі пра Мядзел, Нарач?**

– Чула, што Нарач – самае вялікае возера ў Беларусі, але раней не была. А цяпер пабачыла, што ў Мядзеле так спакойна.

Студэнты ствараюць самыя разнастайныя скульптуры – на дзіцячую тэматыку, абстрактныя і, вядома, па матывах нарачанскіх паданняў. Маладыя скульптары мяркуюць прабыць ў Мядзеле да канца ліпеня. А вынікам іх працы стануць сем драўляных скульптур, якія ўпрыгожаць горад.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

За работай Шунін Чэн.

ТРАНСПАРТ

# З’явяцца аўтобусы без кандуктараў


Архіў "РГ".

Хутка білеты можна будзе набываць не толькі ў кандуктараў!

**МАЛАДЗЕЧНА. “Аплачвайце праезд!” – ходзіць па аўтобусе з бадзёрым заклікам кандуктарка.**

Прадала некалькі білетаў, праверыла праязныя дакументы і прысела на сваё месца. І толькі хацела заплюшчыць вочы – зноў нехта падыходзіць, каб купіць білеціk. Я пытаюся: “Скажыце, а праўда, што ў аўтобусах хутка з’явяцца кампосцеры?”

– Так! Іх ужо, магчыма, закупілі, – кажа кандуктарка. – Таму нам, кандуктарам, будзе трохі прасцей працаваць.

### “Ніхто не хоча ісці ў кандуктары”

Працоўны дзень кандуктара пачынаецца ў пяць-шэсць раніцы. Каб атрымаць патрэбныя паперы, трэба прыехаць у аўтапарк яшчэ раней.

– Працую я ў сярэднім ад сямі да дванаццаці гадзін ночы, – працягвае кандуктарка. – Устаю а трэцяй ці а палове чацвертай ночы. Збіраюся на працу і да поўначы катаюся ў аўтобусе. Працаваць даводзіцца і ў мароз, і ў спякоту. Пасажыры – самыя розныя. Некаторыя зрываюць свой дрэнны настрой на мне, нават не заўважаючы гэтага. Іншы раз даводзіцца мець справу з падвыпіўшымі пасажырамі, з хуліганамі.

Працуюць кандуктары пазменна. Некаторыя, каб зарабіць больш, бяруцца працаваць ў дзве змены.

Заробак складаецца з гарантаванага акладу плюс працэнт, які залежыць ад прывезенай выручкі. Таму існуе канкурэнцыя за прыбытковыя маршруты.

### Кампосцеры аблегчаць жыццё кандуктарам

– Мы плануем усталяваць кампосцеры, – кажа дырэктар Маладзечанскага аўтапарка **Яўстафій Каравай**. – Магчыма, яны з’явяцца ў аўтобусах першага жніўня. А магчыма, і раней, калі нам надрукуюць білеты.

Закупка і ўсталяванне кампосцераў звязаныя з тым, што кандуктараў у горадзе не хапае, каб забяспечыць імі кожны аўтобус. Асабліва летам, бо шмат хто сыходзіць у адпачынак. Аб’ём працы вельмі вялікі, а дадатковых кандуктараў аўтапарк набраць не можа.

– Але ўсталяванне кампосцераў не азначае, што ў аўтобусах знікнуць кандуктары, яны будуць працаваць ў тым самым рэжыме, – кажа спадар Яўстафій. – Проста ў некаторых аўтобусах кандуктараў не будзе.

Цяпер прымаецца рашэнне аб тым, каб напалову скінуць продаж білетаў з кандуктараў. Іх можна будзе купіць ў кіёсках на прыпынках.

Да таго ж, білеты можна будзе набыць і ў кіроўцы, але ён будзе прадаваць іх не па адным, а адразу па пяць. Пасажырам самім прыйдзецца групавацца.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

СЛУЖБА

# Увага: газаправоды!

**МАЛАДЗЕЧНА. Апошнім часам пачасціліся выпадкі пашкоджання падземных газаправодаў падчас будаўнічых і земляных работ.**

З-за гэтага спажыўцоў адключаюць ад газазабеспячэння, наносіцца матэрыяльная шкода, ствараецца аварыйная абстаноўка, узнікае пагроза здароўю і жыццю людзей.

Так, падчас земляных работ па замене ўчастка цеплавых сетак у вёсцы Сенніца Мінскага раёна каўшом экскаватара пашкодзілі размеркавальны газаправод сярэдняга ціску Ø108 мм. Земляныя работы праводзіліся без выкліку прадстаўніка газазабеспячэнскай арганізацыі. Распрацоўка грунту на адлегласці менш за 2 метры ад газаправода рабілася з дапамогай землярыйнай тэхнікі. На час правядзення рамонтнааднаўленчых работ адключылі ад газазабеспячэння 77 індывідуальных жылых дамоў, два шматпавярховыя дамы і чатыры прамысловыя прадпрыемствы. Матэрыяльныя страты склалі амаль 47 мільёнаў рублёў.

Згодна з палажэннем “Аб парадку ўстанаўлення ахоўных зон аб’ектаў газаразмеркавальнай сістэмы, памерах і рэжыме іх выкарыстання”, звяртаем увагу ўсіх арганізацый і грамадзян, якія праводзяць земляныя работы паблізу ахоўных зон падземных газаправодаў, што яны абавязаны да пачатку выканання работ ўзгадніць у міжраённым вытворчым упраўленні “Маладзечнаміжрайгаз” умовы і парадак бяспечнага правядзення такіх работ і прыняць адпаведныя меры, якія забяспечваюць захаванасць газаправодаў.

Земляныя работы ў ахоўнай зоне газаправодаў павінны праводзіцца толькі пасля атрымання адпаведнага дазволу ў МВУ “Маладзечнаміжрайгаз”. Да дазволу павінен быць прыкладзены план (схема) з указаннем размяшчэння і глыбіні закладання газаправода.

Пры гэтым выканаўца работ павінен забяспечыць нагляд за захаванасцю газаправодаў на ўвесь час працы. Перад пачаткам раскопак для ўдакладнення размяшчэння газаправодаў і глыбіні іх залягання рабочы павінен зрабіць шурфаванне (кантрольнае ўскрыццё) газаправоду пад наглядам прадстаўніка МВУ “Маладзечнаміжрайгаз”.

Пры парушэнні правілаў аховы газаправодаў і пашкоджанні газаправодаў, работы, што выконваюцца арганізацыямі, прыпыняюцца. Уся адказнасць ускладаецца на арганізацыю і яе кіраўніка і цягне накладанне штрафу на юрыдычную асобу. Яго выплата не вызваляе вінаватых ад пакрыцця матэрыяльнай шкоды ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

**МВУ “Маладзечнаміжрайгаз”.**

| Курсы валют НБ РБ | 11.07 | 18.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 8 880,00 | **8 860,00** |
| Еўра | 11 370,00 | **11 630,00** |
| Злоты | 2 635,80 | **2 733,68** |
| Літ | 3 297,32 | **3 374,15** |
| Расійскі рубель | 270,00 | **273,00** |
| Грыўня | 1 088,90 | **1 088,45** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне** | | |
| Долар ЗША | 8890/8990 | **8880/9040** |
| Еўра | 11420 /11600 | **11630/11860** |

Цэны на рынку (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 10.07 | 17.07 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| **Кілбаса с/вэндж.**, 1 кг | 188100 | **118300** |
| **Сасіскі**, 1 кг | 45050 | **45400** |
| **Свініна, лапатка**, 1кг | 48500 | **58000** |
| **Ялавічына, кумпяк**, 1 кг | 83000 | **85000** |
| **Кураня-бройлер**, 1 кг | 26200 | **26000** |
| **Шашлык, паўфабрыкат**, 1 кг | 57300 | **54200** |
| **Мінтай свежамарожаны**, 1 кг | 23500 | **23500** |
| **Селядзец**, 1 кг | 28800 | **28800** |
| **Скумбрыя х/в**, 1 кг | 85000 | **85000** |
| **Рыс**, 0,9 кг | 9900 | **10100** |
| **Грэчка**, 0,9 кг | 9800 | **9900** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 8900 | **8900** |
| **Алей** | 15300 | **16300** |
| **Маянэз**, 200 г | 4850 | **5200** |
| **Соус “Мінскі”**, 0,5 л | 7800 | **7800** |
| **Кава “Nescafe”**, 100 г | 30000 | **30000** |
| **Шпроты**, бляшанка 160 г | 9600 | **9300** |
| **Цыбуля рэпчатая**, 1 кг | 10000 | **10000** |
| **Капуста**, 1 кг | 5500 | **6000** |
| **Морква**, 1 кг | 15000 | **13000** |
| **Буракі**, 1 кг | 5000 | **7000** |
| **Лімоны**, 1 кг | 21000 | **20000** |
| **Апельсіны**, 1 кг | 16000 | **13000** |
| **Мандарыны**, 1 кг | 28000 | **31000** |
| **Памідоры**, 1 кг | 13000 | **11000** |
| **Чарэшня, 1 кг** | 35000 | **35000** |
| **Агуркі**, 1 кг | 5000 | **7000** |
| **Перац**, 1 кг | 14000 | **14000** |
| **Вінаград**, 1 кг | 23000 | **28000** |
| **Бананы**, 1 кг | 11500 | **12500** |
| **Яблыкі**, 1 кг | 10000 | **7000** |
| **Грушы**, 1 кг | 20000 | **22000** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако**, 1,5 л | 12000 | **12000** |
| **Масла**, 1 кг | 60000 | **60000** |
| **Тварог**, 1 кг | 35000 | **35000** |
| **Яйкі курыныя**, 1 дзес. | 15000 | **15000** |
| **Сала**, 1 кг | 50000 | **52000** |
| **Бульба маладая**, 1 кг | 6000 | **8000** |
| **Мёд**, 1 кг | 50000 | **50000** |

ПРАКУРАТУРА, СУД

# Ударыў нажом сына і спакойна заснуў




Адносіны паміж бацькам і сынам былі дрэнныя.

**МАЛАДЗЕЧНА. Пасварыўся з жонкай, ударыў нажом сына, пасля лёг спаць.**

Сёлета 16 лютага ў вёсцы Рачкава пасля застолля мужчына пачаў сварыцца са сваёй жонкай. За яе заступіўся сын. Адносіны паміж бацькам і сынам былі дрэнныя. П'яны бацька ударыў яго нажом у правы бок.

На судзе мужчына цалкам прызнаў сваю віну. Але ён не памятае, як ударыў сына.

Узгадвае толькі тое, што пасля падняўся з ложка і ўбачыў чырвоную пляму на яго кашулі. Але пайшоў спаць, не звярнуўшы на гэта ўвагу. Хаця сын і імкнуўся нешта сказаць.

Прыезду "хуткай дапамогі" мужчына таксама не памятае.

Яго жонка кажа, што не бачыла самога ўдару, бо ўсё адбывалася вельмі хутка. Пасля заўважыла, што сын трымаецца за бок.

Разбудзіла другога сына, які таксама быў п'яны. Ён і выклікаў "хуткую дапамогу".

Суд прызнаў Анатоля вінаватым і прыгаварыў да чатырох гадоў абмежавання свабоды без накіравання ў выпраўленчую ўстанову адкрытага тыпу.

Яго будуць таксама прымусова лячыць ад алкагалізму.

У сына прэтэнзій да бацькі няма, яны памірыліся.

**Іван НЕЎМЯРЖЫЦКІ, старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

## Забралі ў хлопцаў "Колу", а пасля яшчэ і пабілі

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета 18 сакавіка каля 21.00 два п'яныя маладзёны каля аўтобуснага прыпынку "Тройка" вырашылі паказаць сваю перавагу і фізічную сілу.**

Для гэтага спынілі двух хлопцаў, што ішлі непадалёк, і забралі "Кока-Колу". Калі адзін з іх папрасіў яе вярнуць, хуліганы вылілі напой на зямлю і пачалі біць маладога чалавека.

У выніку хлопец атрымаў закрыты пералом носа, крывападцёкі і драпіны. Потым злодзеі збілі і другога хлопца.

На судзе Мікалай і Аляксандр сцвярджалі, што беспадстаўна і наўмысна збілі сустрэчных, бо былі п'яныя.

Суд прызнаў іх вінаватымі ў наўмысных дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак.

Цяпер, калі маладыя людзі ўчыняць яшчэ якое-небудзь злादзейства, то правядуць за кратамі год.

Хлопцы атрымалі адтэрміноўку на год і шэсць месяцаў. Калі ў гэты час у іх будуць прыкладныя паводзіны, то за кратамі яны не апынуцца.

Перыядычна маладзёны павінны з'яўляцца для рэгістрацыі ў Маладзечанскі РАУС.

З іх узялі падпіску аб нявыездзе.

**Іван НЕЎМЯРЖЫЦКІ, старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

ПАРАДЫ

## Грыбнікі і ягаднікі, не грэбуйце правіламі бяспекі

**Парадаў і рэкамендацый для паходаў у лес напісана шмат, толькі вось выконваюцца яны не заўсёды.**

Многія, упэўнена разлічваючы на свае сілы, не бяруць з сабой ні цёплых рэчаў, ні ежы, ні запалак, ні компаса. Не паведамляюць родным і блізкім, куды пайшлі і калі плануюць вярнуцца.

Міністэрства ўнутраных спраў заклікае выконваць меры бяспекі пры паходах у лес.

Перад тым як адпраўіцца ў грыбы або ягады, трэба ўлічыць ўмовы надвор'я і цвяроза ацаніць свае сілы і стан здароўя – часта грамадзяне сталага веку становяцца закладнікамі ўласнай самаўпэўненасці, асабліва падчас спёкі.

Пры паходзе ў лес трэба абавязкова папярэдзіць сваякоў пра свае планы і загадзя выбраць месца для збору. Пасля гэтага ні ў якім выпадку нельга змяняць маршрут.

Зберагчы нервы родным і блізкім, а таксама захаваць здароўе дапаможа мабільны тэлефон.

Настойліва раім перад паходам у лес у грыбы або ягады пакласці грошы на сотавы тэлефон, а таксама праверыць зарад батарэі.

І яшчэ адна рэч: здараецца, паходы ў грыбы і ягады заканчваюцца смерцю. Таму заклікаем не заставацца абыякавым да бяды сваякоў зніклых.

Калі вы знайшлі чалавечыя парэшткі ці прадметы, якія сведчаць аб магчымым знаходжанні ў вашай мясцовасці зніклых (адзенне, абутак, вёдры, кошыкі, ровары і т.п.), неадкладна паведамляйце пра гэта ў міліцыю па тэлефоне **102**.

**Аддзел інфармацыі.**

СЛУЖБА 101

## Ратуючыся ад пажару, павіс за акном 3 паверха

**МАЛАДЗЕЧНА. Пажар адбыўся 13 ліпеня па вуліцы Багдана Хмяльніцкага каля 8.20.**

Калі на месца здарэння прыехалі выратавальнікі, з акна трэцяга паверха шматпавярхоўкі ішоў дым.

У кватэры, дзе пачаўся пажар, былі два мужчыны: 40-гадовы гаспадар і 26-гадовы калега.

Яны на кухні пераліvalі растваральнік, які і стаў прычынай пажару. Гаспадар трапіў у рэанімацыю з 30% апёкаў цела 1, 2 і 3 ступеняў.

У яго калегі апёкі кісцяў і пералом вялікага пальца на назе. Яго ён атрымаў, калі, ратуючыся ад пажару, павіс за акном, трымаючыся за падаконнік, але не ўтрымаўся і зваліўся.

Выйсці з кватэры мужчыны не маглі, бо агонь перакінуўся на кухонныя дзверы.

Пра выпадак расказала старшы інспектар групы прапаганды і навучання Маладзечанскага гаррайаддзела па надзвычайных сітуацыях **Марына Ермакова**.

**Настасся РОЎДА.**

ВЫПАДКІ

## Супрацоўнік СТА угнаў машыну

**МАЛАДЗЕЧНА. 11 ліпеня на адной з маладзечанскіх станцый тэхнічнага абслугоўвання ўгналі аўтамабіль.**

Маладзён прыгнаў машыну "Мерседэс-180" на станцыю тэхнічнага абслугоўвання на рамонт. Аддаў работнікам неабходныя дакументы і ключы. Яму паабяцалі, што машыну зробяць праз два тыдні.

У той самы дзень ён паехаў у горад і ўбачыў свой аўтамабіль.

Падышоў бліжэй, а там супрацоўнік СТА.

Як аказалася, гэтага мужчыну ўзялі на працу з выпрабавальным тэрмінам. Ён вырашыў пакатацца.

Мужчына ўжо быў асуджаны за крадзеж, разбой і хуліганства.

Цяпер у чарговы раз узбудзілі крымінальную справу.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

## Загінуў пад электрычкай

**МАЛАДЗЕЧНА. Здарэнне адбылося 11 ліпеня паблізу прыпынку "Фестывальны" .**

А 12 гадзіне ночы да прыпынку пад'язджала электрычка з Мінска. Малады чалавек сядзеў паміж пуцямі.

– Машыніст падаў папераджальны сігнал, але мужчына не зварухнуўся з месца, – кажа старшы інспектар службы групы аховы правапарадку і прафілактыкі Маладзечанскага аддзела ўнутраных спраў на транспарце **Таццяна Субач**.

Машыніст уключыў экстраннае тармажэнне, але чалавека зачапіла. Ён загінуў на месцы.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

### Папраўка

У папярэднім нумары ў матэрыяле "Вырошчваў каноплі ў шафе сваёй бабулі" дапушчаная недакладнасць.

Абвінавачаны пасля дачы паказанняў, ужо ў судзе, адмовіўся ад іх, сказаўшы, што на той момант быў пад дзеяннем наркотыкаў. Аднак экспертыза паказала, што наркотыкі ён у той час не ўжываў.

Суд асудзіў маладзёна і прызначыў пакаранне: восем гадоў зняволення ў выпраўленчай калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці.

Сёлета 31 мая судовая калегія разгледзела на адкрытым пасяджэнні справу па пратэсце пракурора Вілейскага раёна і скаргі Максіма Б. Суд улічыў усе моманты справы і змяніў прыгавор.

У дадатак да пазбаўлення свабоды і канфіскацыі маёмасці, суд прызначыў дадатковае пакаранне: прымусовае лячэнне ад наркаманіі.

**Рэдакцыя просіць прабачэння ў чытачоў.**

ГІСТОРЫЯ

# Валанцёры даследавалі мядзельскі замак

**МЯДЗЕЛ. Багата керамікі і кафлі 16 стагоддзя знайшлі на паўвостраве Замак у Мядзеле падчас раскопак, якія праходзілі ў першыя два тыдні ліпеня. Адбываліся яны на месцы, дзе з 15 па пачатак 18 стагоддзя ўзвышаўся магутны замак.**

– Раней раскопкі на замку праводзіліся ў 70-80 гады мінулага стагоддзя, кіраваў імі **Міхась Ткачоў**, – патлумачыў кандыдат гістарычных навук **Мікалай Плавінскі**. – Аднак інфармацыі пра замак ёсць мала. І самае галоўнае, што няшмат захавалася дакументацыі аб старых раскопках. Міхась Ткачоў раптоўна памёр. У яго публікацыях – зусім невялікія звесткі пра гэты замак, а матэрыялы з найбольшых раскопак, дзе вежу капаў, засталіся неапублікаванымі. І для мажлівых будучых рэстаўрацыйных работ гэтага недастаткова. Таксама бракуе пісьмовых звестак і выяў замка. Ідэя правесці тут раскопкі – вашага земляка, археолага **Міхася Чарняўскага**. Ён прапанаваў праводзіць сумесныя раскопкі, я сам не наважыўся б пачаць гэтую працу. На жаль, Міхася Міхайлавіча сёлета не стала, так што давялося самому ўсё рабіць. Гэта значна ўскладніла працу, ён адзіны памятаў, які даследаванні тут праводзіліся…

Пачаліся раскопкі па замове Мядзельскага райвыканкама, і мясцовыя ўлада актыўна дапамагала ў іх правядзенні, падкрэсліў Мікалай Плавінскі.

Працавалі на раскопках валанцёры: як студэнты, так і тыя, хто працуе – бралі на гэты час адпачынак. У сярэднім чалавек дзесяць тут штодня стараліся.

– Адмыслова шмат народу не збіраў па той прычыне, што сёлета правялі толькі разведачныя раскопкі, – расказаў Мікалай Плавінскі. – Па-першае, каб вызначыць магутнасць культурнага пласта і насычанасць яго знаходкамі. Па-другое, знялі план помніка – бо гэтага ніколі не рабілі. Яшчэ адна з мэтаў даследаванняў – вызначыць, ці былі ў гэтым замку мураваныя сцены. Дакладна вядома, што была мураваная вежа. Але ці былі па ўсім перыметры мураваныя сцены – гэта застаецца пытаннем.

Падчас раскопак знайшлі рэшткі нейкага жытла – драўлянай пабудовы з кафлянай печчу. Тут патрапілася шмат керамікі і гаршковай кафлі. Усё гэта датуецца першай паловай 16 стагоддзя.

– А ці цікавіліся паданнямі пра замак? – спытаў у Мікалая Плавінскага. – Расказваюць пра ход ад замка да касцёла пад возерам і пра іншае...

– З паданнямі праблематычна: знайсці аўтэнтычныя цяжка, легендаў шмат прыдуманых.

Па выніках раскопак пабагацее на экспанаты Мядзельскі музей народнай славы: знаходкі перададуць туды.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

Мікалай Плавінскі дэманструе фрагмент гаршковай кафлі першай паловы 16 стагоддзя, які знайшлі падчас раскопак.

СВЯТЫ

## Да “Дажынак” бібліятэка імя Багушэвіча ўжо адкрыла адну залу

**АШМЯНЫ. Абласныя “Дажынкі” Гродзеншчыны сёлета пройдуць у Ашмянах. Пакуль дакладную дату мерапрыемства не назвалі. Але горад актыўна рыхтуецца да сустрэчы гасцей.**

Як паведаміў **Віталь Сухадольскі**, намеснік дырэктара Ашмянскай ЖКГ, добраўпарадкаванне праходзіць на цэнтральных вуліцах: Пралетарскай, Чырвонаармейскай, Кааператыўнай, Усходняй, праездзе ад Школьнай да Будаўнічай, Камуністычнай. Аднак належным чынам прымуць гасцей і іншыя вуліцы горада. Там таксама кладуць асфальт, наносяць новую разметку. Акрамя дарог, прыбіраюць і дамы, фарбуюць іх.

Ужо зрабілі плошчу горада: паклалі каляровую плітку, зрабілі прыгожыя клумбы, замянілі ліхтары.

Вуліцы абсталёўваюць сметніцамі для раздзельнага збору смецця, якое пасля становіцца другасной сыравінай. Яны пакуль ёсць не на ўсіх вуліцах, але кіраўніцтва раёна імкнецца да гэтага.

Жыхары Ашмянаў таксама рыхтуюцца да свята. Ля пад’ездаў і ў дворыках садзяць кветкі, робяць арыгінальныя клумбы.

**Галіна Балінская**, начальнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Ашмянскага райвыканкама, паведаміла, што да “Дажынак” рамантуецца музычная школа, абнаўляецца экспазіцыя краязнаўчага музея. Ідзе рэканструкцыя раённага Дома культуры, фарбуюць фасад кінатэатра.

– Сказаць, якія мерапрыемствы адбудуцца на “Дажынках”, я не магу. Ідэй многа, але трэба выбраць самую лепшую, маляўнічую, цікавую. Няхай гэта застанецца пакуль таямніцай. Прыязджайце на наша свята, і вы ўбачыце, якім чынам ўвасобіліся ў жыццё ўсе нашы задумы, наколькі папрыгажэў горад.

Дырэктар краязнаўчага музея імя Францішка Багушэвіча **Настасся Навіцкая** расказала, што ўжо адкрылі адну залу “Ашмяны ад старажытнасці да дваццатага стагоддзя”. Яшчэ дзве залы чакаюць свайго адкрыцця. 23 жніўня адбудзецца прэзентацыя кнігі паэтаў ашмянскага і віленскага краю.

**Галіна СІНІЦА.**

ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА!

# На 150 метраў дарогі – 193 яміны

**Праезд у дварах, уздоўж гімназіі №6 да "Космаса", цалкам разбіты. "РГ" зладзіла акцыю**


































# Аплата газу

**Кошт энерганосьбітаў даўно выйшаў за рамкі эканамічных катэгорый і стаў фактарам, які вызначае ўсе сферы сучаснага жыцця.**

Аплата за цяпло стала займаць істотную долю ў бюджэце – ці то сямейным, ці то ў бюджэце прадпрыемства. Многія ўладальнікі газіфікаваных домаўладанняў адчулі на ўласным кашальку, наколькі важна падысці сур'ёзна да пытання эканоміі спажываемага газу. У выніку аналізу спажывання насельніцтвам прыроднага газу па Маладзечанскім раёне ў студзені-чэрвені 2013 г. колькасць абанентаў, якія аплачваюць прыродны газ у адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 23.01.2013 г. №52, складае:

– па другой цэнавай катэгорыі (з каэфіцыентам 1,3) – 322 абаненты

– па трэцяй цэнавай катэгорыі (поўнае пакрыццё затрат) – 10 абанентаў. З гэтай колькасці абанентаў (332) толькі 115 спажыўцоў маюць плошчу, што ацяпляецца, больш за 200 кв.м

Па выніках аналізу відаць, што на спажыванне газу ўплывае не толькі памер плошчы, што ацяпляецца, але і адсутнасць эканоміі з боку абанентаў. Трэба памятаць, што калі газ выкарыстоўваецца для ацяплення жылога дома, то **неабходна выконваць простыя парады па эканоміі цяпла:**

1. Задзелка шчылін у аконных рамах і дзвярных праёмах
2. Устаноўка новых пластыкавых або драўляных вокнаў з мнагакамернымі шклопакетамі
3. Падбор аптымальнай магутнасці газавага катла і помпы
4. Уцяпленне памяшканняў, аптымальны падбор эфектыўных радыятараў ацяплення ў памяшканнях, дзе выкарыстоўваецца абагрэў газавым катлом
5. Выкарыстанне на газавых плітах посуду з шырокім плоскім дном, шчыльнай накрыўкай, пажадана празрыстай, падаграванне ў чайніку толькі неабходнай колькасці вады; сачыце за тым, каб полымя трапляла ў цэнтр дна каструлі або патэльні
6. Пераход, па магчымасці, на максімальна шырокае карыстанне іншымі крыніцамі цяпла.

**Паважаныя абаненты МВУ «Маладзечнаміжрайгаз»!**

Нагадваем, што аплата кошту выкарыстанага Спажыўцом газу павінна здзяйсняцца **не пазней за 25 чысло месяца**, наступнага за разліковым. Інфармацыя аб зарэгістраваных паказаннях газавых лічыльнікаў 8-га чысла месяца, наступнага за разліковым, разам з базай дадзеных аб запазычанасці за выкарыстаны газ, прадастаўляецца упраўленнем «Маладзечнаміжрайгаз» у аддзяленні банкаў і РУП «Белпошта», у якіх фарміруецца база для прыёму ўсіх камунальных плацяжоў ад насельніцтва. Аплачваць выкарыстаны газ вы можаце ў любой установе банка ці пошты, праз інтэрнэт-банкінг з дапамогай сістэмы АРІП (Адзіная Разліковая Інфармацыйная Прастора).

Пры звароце да аператара, які прымае плацеж, вам неабходна паведаміць нумар асабовага рахунка, паказанні лічыльніка, знятыя ў апошні дзень разліковага месяца. Аператар вылічыць суму, якую трэба заплаціць.

Спадзяёмся на ўзаепаразуменне і своечасовую аплату спажытага вамі газу.

УП «Мінскаблгаз» Маладзечанскае міжраённае вытворчае ўпраўленне газавай гаспадаркі «Маладзечнаміжрайгаз»
УНП 100008077

бараніны, перасталі гатаваць рэлігійныя стравы. Сталі бядней жыць, таму многія стравы зніклі.

**– Чаму стравы, якім каля тысячы год, мы захавалі?**

– Беларускую кухню можна падзяліць на перыяды: паганскі, час Вялікага Княства Літоўскага, Расійскай імперыі.

Для многіх краін характэрны падзел нацыянальных страў на тыя, якія ядуць багатыя, і тыя, што ядуць бедныя. І гэта сапраўды дзве розныя кухні, і стравы з часам забывалі. У Беларусі па-іншаму. Што ела шляхта, прыкладна тое ж елі і сяляне. Розніца толькі ў колькасці і якасці прадуктаў.

У Расіі ж тыя стравы, якія цяпер мы лічым нацыянальнымі, ці завезлі з-за мяжы, ці прыдумалі штучна. Тая ж гур'еўская каша, якая з'явілася ў 19 стагоддзі, – гэта не гістарычная страва. А ў нас захаваліся гістарычныя.

У савецкі перыяд шмат з'явілася страў з кухняў краін, што ўваходзілі ў СССР: кураня табака, хачапуры. І ў той жа час забывалі нашы старажытныя стравы.

**– Але вы іх аднаўляеце. Якім чынам?**

– Езджу ў экспедыцыі, калі пачую, што хтосьці ведае цікавыя стравы. У бібліятэках я перачытала ўсё, што можна было па беларускай кухні. Але каб пачаць разбірацца ў нацыянальнай кухні, мне спатрэбілася вывучыць гісторыю. Цяпер я ўяўляю, ці маглі пэўную страву гатаваць у пэўны час.

Калі я расказваю пра стравы, я расказваю і пра гісторыю Беларусі.

Але трэба ўлічваць: тое, што было смачна нашым продкам 500 год таму, нашым сучаснікам смачна не будзе. Таму многія стравы трэба адаптаваць.

Сялянская кухня сытная. Трэба добра есці, каб мець сілы працаваць. У нас быў вялікі працэнт шляхты – да 20 працэнтаў ад усяго насельніцтва, а ў Расіі не больш за пяць. І тэарэтычна любы шляхціц мог быць абраны каралём. Шляхціцы любілі гасцяваць адзін у аднаго. З таго часу дайшла прымаўка "пазыч, але на стол накрый". Калі прыходзілі госці, трэба было накрываць стол, а госці маглі быць, колькі хацелі. І можна было пазычаць штосьці, але гасцей нельга было не частаваць. Бо калі не праявіць належнай гасціннасці, маглі і пабіць.

Каралеўская кухня магла дазволіць сабе ўсё. У той час чалавек, які называў сябе кухарам, павінны быў умець гатаваць 12 страў з кілбасы. А каралеўскі кухар – да 24 страў.

**– Можа, сакрэт прыгажосці беларускіх дзяўчат у дыетычнасці нацыянальнай кухні?**

– У нашых суседзяў, у Расіі, заўсёды ідэалам прыгажосці была поўная жанчына. Калі некаторыя дзяўчаты не маглі ніяк набраць вагу, то лічылі сябе не прывабнымі. І каб хоць неяк гэта згладзіць, надзявалі па тры пары тоўстых ваўняных панчох.

На Беларусі залішняя паўната ніколі не была ў пашане. Ідэал прыгажосці – стройная дзяўчына са светлымі валасамі і блакітнымі вачыма.

**– Раскажыце нам, якія яны, самыя што ні ёсць, беларускія дранікі?**

– Яны з'явіліся крыху за 200 год таму, а беларускай кухні нашмат больш часу. Яны набылі статус галоўнай нацыянальнай ежы ў савецкі час, на мой погляд.

Беларусы даўно гатавалі аладкі ці пляскі з гарбуза, кабачкоў. Калі з'явілася бульба, не ведалі, як яе найлепш гатаваць. У той жа час з'явілася нямецкая кніга рэцэптаў. А Германія была першай краінай, якая пачала спажываць бульбу. Бо кайзер Вільгельм Другі загадаў, каб усе кухары гатавалі бульбу. Таму гэтая страва, падобная да аладак, так прыжылася.

Але бульба пачала расці паўсюль, чаму ў нас яна такая папулярная. Таму што на Беларусі вельмі спрыяльныя кліматычныя ўмовы для вырошчвання бульбы, у ёй атрымліваецца вельмі многа крухмалу, таму яна смачная. Калі рабіць дранікі з ірландскай ці кітайскай бульбы, яны атрымаюцца не такія смачныя.

**– А адкуль у беларусаў такія спалучэнні, як агуркі з мёдам ці бульба з брусніцамі?**

– Беларусы вельмі знаходлівыя. Змешвалі і глядзелі, што атрымаецца. Калі толькі з'явілася бульба, яе як незвычайны прадукт падавалі з цукрам, бо яго толькі пачалі выраблять у прамысловасці. Два дарагія прадукты спалучалі. Рыбу ў малацэ таксама гатуюць. Рачная рыба мае моцны пах. Але калі патушыць у малацэ, пах ціны знікае.

**– Скажыце, што маглі падаваць на вяселлі ў Вітаўта?**

– Абавязкова вялікую цалкам смажаную жывёліну, лася ці кабана. Фаршыраваць буйную жывёліну больш дробнымі пачалі пазней. Крамбамбулі яшчэ не было, але была медавуха. Аўсяны кісель быў абавязкова на ўсіх вяселлях. Авёс павінны закіснуць, потым яго працэджвалі і дадавалі мёд. Гэта была апошняя страва. Пернікі і мядовікі маглі быць. Мядовікі дасягалі паўтара метра ў даўжыню.

Відэльцаў не было. Елі рукамі, дапамагалі сабе нажом. Вітаўт піў са срэбнага кубка. Срэбра і дэзінфікавала крыху, і рэагавала з некаторымі атрутамі.

**– А што мог есці ў дзяцінстве Янка Купала?**

– Верашчаку, калдуны, кашы, бульбу, гарбузы, бліны, магла быць бабка.

**– Якую старажытную страву можна гатаваць цяпер?**

– Ягадную кулагу. Бяром якія ёсць ягады – маліну, брусніцы, рабіну, чарніцы, суніцы, парэчкі. Дзве часткі ягад заліваем адной часткай вады. Калі ягады пачынаюць разварвацца, дадаём некалькі лыжак жытняй мукі.

Ці інакш. Падсмажыць муку без масла, калі астыне, дадаць яе да ўзбітых у блэндары ягад і пасля праварыць. Цукар дадаць адразу, мёд – калі страва астыне.

Кулагу забараняла царква, бо гэта паганская страва.

Я вельмі хачу, каб беларускія стравы з'яўляліся на нашых сталах. Па першае, таму што мы беларусы. А па-другое, таму што гэта вельмі карысна для здароўя!



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by



Фота kulinariaplus.com.

На экскурсіі ў Мінску разам з дзецьмі са школы-інтэрната.



Фота kulinariaplus.com.

У Ашмянскай школе-інтэрнаце.



Фота kulinariaplus.com.

У Польшчы.

## "Кулінарыя+" дапамагае дзецям вучыцца гатаваць

**АШМЯНЫ. Алена Мікульчык пасля сустрэчы з кіраўніцтвам Ашмянскай школы-інтэрната вырашыла арганізаваць праект, які дапаможа выхаванцам навучыцца гатаваць.**

На нашу сустрэчу Алена прыйшла з Галінай – выхаванкай ашмянскага дзіцячага дома, якая якраз гасціла ў кулінарнага эксперта.

– Усё здарылася выпадкова. Супрацоўнік Ашмянскай школы-інтэрната распавёў, што ў іх дзіцячым доме ёсць кухня, але ніхто там не гатуе ежу. Вось тады і нарадзілася ідэя стварыць праект "Кулінарыя+". Гэта адукацыйны праект, які ўжо доўжыцца два гады і мае абавязковы кулінарны складнік.

Першы год быў прысвечаны розным краінам. Мы камандай валанцёраў прыязджалі штомесяц, прэзентавалі пэўную культуру, яе традыцыі, прадстаўнікоў і абавязкова – страву. Сярод гэтых краін – Індыя, Кітай, Амерыка, Германія, Літва і іншыя.

Летась арганізавалі свята, прысвечанае 200-годдзю вайны з Напалеонам. Да нас далучыліся дзеці з Вілейкі. Паехалі на ваенна-гістарычную рэканструкцыю пераправы на Бярэзіну. А потым мы з дзецьмі пайшлі ў лес і над адкрытым вогнішчам смажылі сала з хлебам і гатавалі старажытны збіцень. У той жа час кавы і гарбаты не было, а пілі гэты напой.

Цікавай атрымалася праграма "бабулін дэсант". Сталыя жанчыны далучыліся да нас і павіншавалі выхаванцаў школы-інтэрната перад Новым годам.

Апошняя наша праграма была байкерская, падчас якой мы гатавалі брутальны суп шурпа.

У лютым праект стаў міжнародным – да нас прыехалі выхаванцы варшаўскага дома-інтэрната, для якіх мы зладзілі праграму.

ІНТЭРВ'Ю

# Веславанне: ёсць поспехі і перспектывы

**МЯДЗЕЛ. З інтэрв'ю даведаемся пра сённяшні дзень і перспектывы развіцця веславання ў Мядзеле.**



Фота забяспечана Алесем ВЫСОЦКІМ.

Трэніроўка.

Гутарым са старшым трэнерам аддзялення веславання на байдарках і каноэ Мядзельскай СДЮШАР **Аляксандрам Карпеем**. Працуе ён у спартыўнай школе чвэрць стагоддзя.

**– Колькі дзяцей зараз займаецца веславаннем у спартыўнай школе?**

– У Мядзеле і ў аддзяленні школы ў Нарачы займаецца больш за 140 дзяцей.

**– З якога ўзросту займаюцца?**

– З дзесяці год і да таго часу, як скончаць агульнаадукацыйную школу.

**– Якія якасці характару развівае веславанне?**

– Напачатку многія дзеці як прыходзяць, то баяцца вады. Пачынаюць трэніравацца, возім іх у басейн, вучацца плаваць, і ў іх знікае страх перад вадой. Дзеці становяцца больш мэтанакіраванымі: ім трэба выйграваць, хочуць быць першымі. Ды і фізічна дужэюць. І, як і ў ва ўсіх відах спорту, развіваецца ўпэўненасць у сабе, больш дысцыплінаванымі становяцца.

**– Бачу, і на канікулах яны трэніроўкі не кідаюць...**

– Так. На базе нашай школы працуе спартыўна-аздараўленчы летнік з дзённым знаходжаннем. У першай змене было 40 чалавек, у другой – 60. Двойчы на дзень праводзім трэніроўкі па веславанні. Таксама кросы, плаванне, у паходы ходзяць.

**– Якія дасягненні ўжо маеце ў гэтым сезоне?**

– Напрыканцы мая на рэспубліканскай спартакіядзе ДЮСШ у Гомелі **Алена Карпей** і **Алена Лапцік** заваявалі срэбра на байдарцы-двойцы. Шэсць медалёў нашы выхаванцы прывезлі з першынства Беларусі па веславанні на байдарках і каноэ ў Брэсце. Тры медалі рознай вартасці заваяваў **Аляксей Талочка** на каноэ-адзіночцы і каноэ-чацвёрцы. **Юлія Захарэвіч** заваявала "срэбра" на каноэ-двойцы. **Аляксей Махніст** быў двойчы трэцім на каноэ-адзіночцы.

У пачатку ліпеня **Юлія Захарэвіч** стала другой на каноэ-двойцы на чэмпіянаце Беларусі. Выступілі нашы выхаванцы і на міжнародных спаборніцтвах.

У канцы чэрвеня **Аляксей Талочка** ў складзе каманды юнакоў (да 18 год) удзельнічаў у першынстве Еўропы ў Польшчы, дзе заняў сёмае месца на каноэ-адзіночцы.

**– Якія сур'ёзныя спаборніцтвы наперадзе?**

– Бліжэйшыя старты – 22 ліпеня ў Заслаўі. Гэта алімпійскія дні моладзі Мінскай вобласці і абласная спартакіяда ДЮСШ. Там будзе адбор для ўдзелу у рэспубліканскіх спаборніцтвах.

**– А як на абласным і рэспубліканскім узроўнях выглядаюць мядзельскія весляры?**

– Прывяду такую лічбу: у спісах членаў нацыянальных зборных розных складаў чатыры выхаванцы нашай школы. Для Мядзела, лічу, нядрэнна.

**– А ці ёсць перспектывы надалей?**

– Думаю, ёсць. Перспектывы найбольшыя ў малодшым узросце, бо канкурэнцыя там, дзяцей нямала займаецца. У гэтым навучальным годзе шмат іх прыйшло: бацькі самі прыводзяць, каб займаліся спортам, адрываліся ад камп'ютараў. І райвыканкам нам дапамагае: нядаўна закупілі дзве байдаркі і два каноэ, вёслы.

**– Вы трэніруеце дзяцей у Мядзеле з 1988 года. Якія гады былі лепшыя для развіцця веславання?**

– Лепшыя гады былі, калі пачынаў. Быў яшчэ Савецкі Саюз, лодкі не трэба было купляць, так размяркоўвалі. Не было камп'ютараў, шмат дзяцей прыходзіла, займалася. І ў апошнія гады стала лепш. Сталі лодкі купляць, зборы рабіць, дзяцей зацікаўліваць. Скажам, прызёры і чэмпіёны рэспублікі імянныя стыпендыі атрымліваюць, і ў райвыканкаме лепшых узнагароджваюць па выніках сезона.

**Гутарыў Алесь ВЫСОЦКІ.**

НАВІНЫ

## Хет-трык Ягора Сямёнава забяспечыў перамогу

**СМАРГОНЬ.** Футбольны клуб "Смаргонь" 14 ліпеня правёў матч 13-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе. Смаргонцы ў гасцях разгромілі "Ліду" 4:1. Тройчы вызначыўся **Ягор Сямёнаў** (на 8-й, 27-й і 53-й хвілінах), а на 79-й хвіліне гол у вароты лідчан забіў Мікалай Рындзюк, паведамляе goals.by.

Гэта перамога дазволіла "Смаргоні" падняцца з восьмага месца на пятае.

## Каманда з Чысці прапусціла пяць галоў

**МАЛАДЗЕЧНА.** У дзясятым туры чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе 13 ліпеня "Маладзечна-ДЮСШ-4" дома атрымала буйную перамогу над камандай "Колас" (Чэрвеньскі раён) 5:0. "Забудова-2007" у гасцях прайграла ФК "Узда" 2:5. У турнірнай табліцы маладзечанцы засталіся трэцімі, каманда з Чысці – апошнімі.

## "Вілія" зноў перамагла

**ВІЛЕЙКА.** У дзясятым туры чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе 14 ліпеня вілейская "Вілія" заваявала тры ачкі ў Смалявічах. Аднайменны клуб віляйчане абыгралі з лікам 2:0. Гэта другая перамога каманды з Вілейкі запар. У турнірнай табліцы каманда паднялася яшчэ вышэй – на адзінаццатае месца.

## Разгром за разгромам у чэмпіянаце па футболе

**ВІЛЕЙКА.** У суботу, 13 ліпеня, адбыліся дзве гульні трэцяга тура чэмпіянату раёна па футболе. І абедзве закончыліся разгромам. "Шылавічы" прайгралі дома камандзе "Першы Беларускі" 1:8. "Страла" (Вілейка) таксама буйна саступіла прадстаўнікам СВК "Чурлёны" 2:9. Пра гэта паведаміў старшыня Вілейскай раённай федэрацыі футбола **Ігар Шабан.**

## Вызначылі лепшых турыстаў

**ВІЛЕЙКА.** З 12 па 14 ліпеня на беразе Вілейскага вадасховішча прайшоў раённы турыстычны злёт працоўнай моладзі памяці Віталя Кастэнкі. Удзельнічалі ў ім сем камандаў.

Змагаліся яны ў начным арыентаванні, спаборніцтвах па веславанні на каноэ, дартсе, перацягванні каната, перадольванні турыстычнай паласы. Таксама прайшлі конкурсы турысцкай песні і быту.

Перамагла каманда райкама прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі, паведаміла галоўны спецыяліст аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі **Вераніка Гайчук**. Другое месца заваявалі турысты з "Зеніт-БелОма", трэцяе – каманда раённага вузла электрасувязі.

**Аддзел інфармацыі.**



ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

## Асіповічы – Маладзечна-2013. Гульня скончылася з нулямі на табло

**МАЛАДЗЕЧНА. У нядзелю, 14 ліпеня, адбыўся выязны матч па футболе. Ён прайшоў на стадыёне "Юнацтва" ў Асіповічах.**

Гэта ўжо быў адзінаццаты тур чэмпіянату Беларусі ў другой лізе. На гасцявым полі ФК "Маладзечна-2013" згуляў унічыю з "Асіповічамі".

Пасля 11 тураў маладзечанская каманда знаходзіцца на адзінаццатым месцы з васьмю ачкамі.

На 29 хвіліне другога тайма маладзечанец **Юры Бугай** атрымаў жоўтую картку. У гульні па-ранейшаму не прымалі ўдзел паўабаронца **Віталь Макрыцкі** і нападаючы **Андрэй Шаблінскі**. Пакуль Макрыцкі на заробках, а Шаблінскі папраўляецца пасля траўмы.

Наступны матч адбудзецца ў нядзелю, 21 ліпеня. У госці да ФК "Маладзечна-2013" прыедзе дзяржынская "Лівадзія", якая знаходзіцца на шостым месцы ў турнірнай табліцы.

**Вольга ЮРКЕВІЧ.**

**Турнірная табліца:**

| | Каманды | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Гомельчыгунтранс | 9 | 8 | 1 | 0 | 24-5 | 25 |
| 2. | Нёман (Масты) | 10 | 6 | 4 | 0 | 23-9 | 22 |
| 3. | Зорка-БДУ (Мінск) | 10 | 5 | 4 | 1 | 16-7 | 19 |
| 4. | Жлобін | 10 | 6 | 1 | 3 | 21-17 | 19 |
| 5. | Кобрын | 10 | 5 | 1 | 4 | 20-21 | 16 |
| 6. | Лівадзія (Дзяржынск) | 9 | 3 | 4 | 2 | 13-9 | 13 |
| 7. | Орша | 11 | 3 | 3 | 4 | 19-14 | 12 |
| 8. | Баранавічы | 9 | 3 | 3 | 3 | 14-15 | 12 |
| 9. | Асіповічы | 10 | 2 | 4 | 4 | 6-11 | 10 |
| 10. | АЛФ-2007 (Мінск) | 10 | 2 | 3 | 5 | 10-17 | 9 |
| **11.** | **Маладзечна-2013** | **10** | **2** | **2** | **6** | **13-24** | **8** |
| 12. | Партызан-МТЗ (Мінск) | 10 | 1 | 4 | 5 | 7-16 | 7 |
| 13. | Віцебск-2 | 10 | 0 | 2 | 8 | 5-26 | 2 |

АДПАЧЫНАК

# Нарач: купайцеся на абсталяваных пляжах

**МЯДЗЕЛ. Працягваем цыкл матэрыялаў, прысвечаных Нарачанскаму краю. Сёння з намеснікам генеральнага дырэктара Нацыянальнага парку “Нарачанскі” па навуковай рабоце Валерыем Люштыкам пагаворым на актуальную для лета тэму: пра пляжы на возеры Нарач.**

Даведаемся таксама пра тое, якая сітуацыя з цэркарыёзам – так званым “свербам купальшчыка”, калі пасля купання на скуры з’яўляюцца раздражненне і сверб.

**– Колькі ўсяго пляжаў абсталявана на тэрыторыі курортнага пасёлка Нарач?**

– Усяго шэсць пляжаў: санаторыяў “Белая Русь”, “Нарачанскі бераг”, “Нарач”, туркомплексу “Нарач”, “Спадарожнік” і самы вялікі – “Урлікі”.

Далей, за тэрыторыяй курортнага пасёлка, размешчаныя пляжы базы адпачынку “Чайка”, санаторыя “Жураўка”, НДЦ “Зубраня”, аўтакемпінгу “Нарач”, санаторыя “Сосны”.

Перад летнім сезонам было выдадзенае рашэнне райвыканкама, згодна з якім усе здраўніцы павінны так абсталяваць пляжы, каб там выконваліся як санітарна-гігіенічныя, так і прыродаахоўныя патрабаванні, рэкамендацыі навукоўцаў. Гэта як папярэджанні пра межы пляжа і забарону карміць птушак, так і касьба трыснягу, прыбіранне малюскаў, устаноўка душавых кабінак, пантонаў...

**– Большасць з гэтых захадаў накіраваныя на прафілактыку цэркарыёзу. Патлумачце, што ж гэта такое?**

– Цэркарыёз – з’ява, якую ў асобных людзей пасля купання выклікаюць лічынкі птушыных гельмінтаў – цэркарыяў. У месцах іх пранікнення скура становіцца чырвонай, з’яўляецца пачуццё смылення і свербу, неўзабаве з’яўляецца высыпка і пухіры. Праз некалькі дзён усе гэтыя сімптомы праходзяць без следу.

**– Звернемся да недалёкай гісторыі. Калі на Нарачы пачалі змагацца з цэркарыёзам?**

– Трэба ведаць, што па дадзеных Нацыянальнай акадэміі навук каля 500 вадаёмаў у Беларусі маюць такую праблему. Але найчасцей пра яе чутна ў адносінах Нарачы. Чаму? Бо тут і адпачывальнікаў больш, і асаблівасць возера адбіваецца: каб паплаваць на глыбіні, трэба прайсці ў сярэднім каля 100 метраў.

Супрацьстаяць гэтай праблеме ў пачатку 90-х год мінулага стагоддзя пачалі гігіеністы. Больш грунтоўныя рэкамендацыі навукоўцы Нацыянальнай акадэміі навук выдалі ў 2006 годзе. З таго часу Нацыянальны парк разам са здраўніцамі мусяць шчыльна працаваць па прафілактыцы цэркарыёзу пачынаючы з мая і да канца лета. Адпачывальнікі сталі больш ведаць пра гэту праблему: штогод выдаецца шмат памятак, якія распаўсюджваюцца па здраўніцах і ў эколага-асветніцкім цэнтры Нацыяльнага парку.

**– Як у апошнія гады змяняецца сітуацыя з цэркарыёзам?**

– Калі пачалі мэтанакіравана выконваць рэкамендацыі навукоўцаў, то сітуацыя ў курортнай зоне аказалася пад кантролем, нягледзячы на тое, што радыкальна вырашыць гэту праблему немагчыма. Да пачатку выканання рэкамендацый фіксавалі больш за 600 выпадкаў, калі адпачывальнікі звярталіся да медыкаў са скаргамі на цэркарыёз. А ў апошнія гады рэгіструецца каля 100 выпадкаў.

**– І якія мерапрыемствы ў барацьбе з цэркарыёзам, лічыце, самыя эфектыўныя?**

– Толькі ўсё ў комплексе даюць эфект. А самае эфектыўнае, на мой погляд, гэта ўстаноўка пантонаў. Яны рэзка змяншаюць магчымасць заражэння: адпачывальнікі не плёскаюцца на мелкаводдзі, адразу трапляюць у глыбакаводную зону. Гэта важна: бо найбольшая колькасць лічынак-цэркарыяў назіраецца на глыбіні да 60 сантыметраў.

**– Ці шмат пляжаў у курортным пасёлку абсталяваны пантонамі?**

– Амаль усе: няма пантона толькі на пляжы туркомплексу “Нарач”.

**– Як выконваюцца рэкамендацыі па прафілактыцы распаўсюджвання цэркарыёзу?**

– Сур’ёзны досвед маюць супрацоўнікі Мядзельскай ЖКГ па выдаленні расліннасці над вадой: зімой у рэкамендаваных месцах косяць трыснёг па лёдзе, летам – спецыяльнай касілкай. Гэта для таго, каб выключыць магчымасць гнездавання птушак. На мелкаводдзі кожны суб’ект гаспадарання павінен арганізаваць уборку малюскаў. Пры тэмпературы вады больш за 18 градусаў, іх павінны збіраць двойчы на тыдзень, калі вада праграваецца да 22 градусаў, то малюскаў павінны збіраць праз дзень. Супрацоўнікі Нацыянальнага парку адпуджваюць вадаплаўных птушак ад пляжаў, па спецыяльным дазволе Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя праводзіцца іх адстрэл у навуковых мэтах.

**– Што ж параіце адпачывальнікам?**

– Самае галоўнае – купацца на абсталяваных пляжах. Лепш купацца часцей і нядоўга, хвілін па пяць. І лепш акунацца ў ваду з пантонаў. Пасля выхаду з вады абавязкова трэба хутка абмыцца пад душам ці абцерціся сухім ручніком.

Гутарыў
Алесь ВЫСОЦКІ.


Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

На Нарачы лепш акунацца ў ваду з пантонаў.

**Каментар у тэму:**

У чэрвені да медыкаў лячэбных і санаторна-курортных устаноў з сімптомамі цэркарыёзу пасля купання ў Нарачы звярнуліся чатыры чалавекі. А за дзесяць дзён ліпеня зарэгістравана восем такіх выпадкаў. Пра гэта паведаміла загадчыца аддзела эпідэміялогіі раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Святлана Несцярэнка**.

СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 4 | | 6 | 5 | | | |
| 5 | | | | | | | 8 | |
| | 3 | | 8 | 1 | | | 4 | |
| 6 | 4 | | | | 9 | | | 7 |
| | | | | 5 | | | | |
| 8 | | | 4 | | | | 5 | 3 |
| | 5 | | | 9 | 1 | | 2 | |
| | 9 | | | | | | | 6 |
| | | | 3 | 2 | | 4 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | 8 | 4 | 9 | 6 | 5 | 7 | 3 | 1 |
| 5 | 1 | 9 | 7 | 4 | 3 | 6 | 8 | 2 |
| 7 | 3 | 6 | 8 | 1 | 2 | 5 | 4 | 9 |
| 6 | 4 | 5 | 2 | 3 | 9 | 8 | 1 | 7 |
| 9 | 7 | 3 | 1 | 5 | 8 | 2 | 6 | 4 |
| 8 | 2 | 1 | 4 | 7 | 6 | 9 | 5 | 3 |
| 4 | 5 | 7 | 6 | 9 | 1 | 3 | 2 | 8 |
| 3 | 9 | 2 | 5 | 8 | 4 | 1 | 7 | 6 |
| 1 | 6 | 8 | 3 | 2 | 7 | 4 | 9 | 5 |

РЭПЕРТУАР

## Кінатэатр “Радзіма”, Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, фэнтэзі “**Універсітэт монстраў**” (ЗША, 2013, да 12 гадоў прагляд у суправаджэнні бацькоў ці педагога)
19 ліпеня – у 19.00
20 ліпеня – у 13.00, 21.00
21 ліпеня – у 14.00, 19.00
22 ліпеня – у 21.00
23 ліпеня – у 19.00
24 ліпеня – у 16.00
25 ліпеня – у 19.00
Кошт білета – 22 000-25 000 рублёў

Экшн “**Чалавек са сталі**” 3D (США, 2013, да 14 гадоў прагляд у суправаджэнні бацькоў ці педагога)
20 ліпеня – у 15.00
24 ліпеня – у 18.00
25 ліпеня – у 16.00
Кошт білета – 35 000-40 000 рублёў

Фантастычны экшн “**Ціхаакіянскі рубеж**” 3D (ЗША, 2013, 2 серыі, для гледачоў, якім за 16)
19 ліпеня – у 16.00. 21.00
20 ліпеня – у 18.00
21 ліпеня – у 16.00, 21.00
22 ліпеня – у 18.00
23-25 ліпеня – у 21.00
Кошт білета – 40 000-45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Сямейны фільм, прыгоды “**Тэд Джонс і закінуты горад**” (Іспанія, 2012)
19 ліпеня – в 17.30
20, 21 ліпеня – в 15.30
Кошт білета – 15 000 рублёў

Баявік, трылер “**Тачка №19**” (ЗША, ЮАР, 2013)
19 ліпеня – в 19.30, 21.30
20, 21 ліпеня – в 17.30, 19.30, 21.30
22 ліпеня – в 21.30
Кошт білета – 25 000 рублёў

Трылер “**Канец свету**” (Іспанія, 2012)
23-25 ліпеня – в 19.30, 21.30
Кошт білета – 25 000 рублёў

Анімацыя “**Прыгоды Машы ў краіне Цудаў**” (Кітай, 2012)
23-25 ліпеня – в 17.30
Кошт білета – 15 000 рублёў

Тэл. для даведак: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30.**

**ГАРАСКОП (19-25 ЛІПЕНЯ)**


**Авен.** Вельмі высокія прафесійныя нагрузкі, з-за гэтага застаецца мала часу на адпачынак, адсюль і пагаршэнне самаадчування. Збаўце тэмпы!


**Блізняты.** Ваша абаянне будзе прыцягваць многіх людзей. Таму калі вам сімпатычны нейкі чалавек, зрабіце першы крок.


**Цялец.** На працы могуць даць вельмі адказнае заданне. Пастарайцеся прыкласці як мага болей намаганняў, тады працу ацэняць.


**Рак.** Складайце планы асцярожна, нікога ў іх не пасвячайце, пакуль не будзеце цалкам упэўнены ў тым, што збіраецеся зрабіць. Рухайцеся да мэты не рыўкамі, а скачкамі і не пераадольвайце за адзін раз некалькі прыступак.


**Леў.** Перыяд надзеліць вас спакойнай упэўненасцю ў сабе, светлай галавой і камунікабельнасцю, што дапаможа вам быць ва ўсёй красе і завязаць карысныя знаёмствы.


**Дзева.** Для вас цяпер фінансы не спяваюць рамансаў, грошы будуць паступаць своечасова і ў патрэбнай колькасці. Можаце займацца вырашэннем любых пытанняў: вам удасца дабіцца свайго.


**Шалі.** Настаў час, калі можна прыняць вернае рашэнне і здабыць немалыя жыццёвыя даброты ці зрабіць памылку і страціць усё, чым вы даражылі. Крытычна адносіцеся не толькі да навакольных, але і да сябе.


**Скарпіён.** Ваш часовы “зыход у сябе” запатрабаваны для ўзнаўлення сіл і папаўнення запасаў энергіі. Але тлумачце гэта блізкім.


**Стралец.** Прыслухайцеся да сябе, бо вам у галаву прыйдуць цікавыя ідэі, якія і рэалізуюцца, толькі трохі пазней.


**Казярог.** У асабістых адносінах запануе гармонія, калі вы будзеце больш давяраць блізкім і прыслухоўвацца да іх меркавання. А ўпэўненасць у сваёй праваце цягне за сабой праблемы.


**Вадалей.** Перыяд патрабуе праявіць бескарыслівасць, высакароднасць, альтруізм. Узнагарода будзе шчодрай. А калі не зможаце справіцца з эгаізмам, чакайце суровага пакарання.


**Рыбы.** Калі вам удасца з гонарам вытрымаць удары лёсу, зоркі возьмуць вас пад сваю апеку і паклапоцяцца пра тое, каб далей складвалася ўсё ўдачна.

Марыя УРБАНОВІЧ.

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета

**Камент-эксперт**

erh.by

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар **+375 (29) 67-68-420,** на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **rh.by**

## НАДВОР'Е

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +17 / +21 | | +13 / +16 | | +14 / +18 | | +13 / +14 | |
| | 735 | → 6 | 737 | ↘ 5 | 737 | ↘ 5 | 731 | ↘ 6 |
| Вільня | +14 / +18 | | +11 / +16 | | +12 / +16 | | +12 / +13 | |
| | 744 | → 6 | 746 | ↘ 5 | 744 | ↘ 4 | 746 | ↘ 4 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 5.06
Захад 21.31
Даўжыня дня 16.25

Усход 18.12
Захад 1.33
Квадра 2

**20 ліпеня, субота**

| Горад | | | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|---|
| Віцебск | +12 | +17 | 742 | ↘ 5 |
| Гродна | +13 | +20 | 746 | ↘ 5 |
| Мінск | +14 | +18 | 737 | ↘ 5 |
| Магілёў | +12 | +18 | 741 | ↘ 6 |
| Брэст | +13 | +19 | 748 | ↘ 6 |
| Гомель | +17 | +20 | 744 | ↘ 5 |

## ПРЫКМЕТЫ

- 25 ліпеня – Прокл. "На Прокла поле ад расы прамокла".
- У беларусаў-каталікоў 25-га – Якуб. "Які Якуб да паўдня, такая да снежня зіма". Ліпень – макушка лета, снежань – шапка зімы.

# Чытайце праз тыдзень:

- **Аляксандр Шушкевіч з Ілы ў свае 91 яшчэ ездзіць на зробленым ім трактары. Яго жыццёвую гісторыю чытайце праз тыдзень на старонках газеты.**

## МІМАХОДЗЬ

Ніводны чалавек не заслугоўвае тваіх слёз, а тыя, хто заслугоўвае, не прымусяць цябе плакаць.

***

Толькі таму, што нехта не кахае цябе так, як табе хочацца, зусім не азначае, што ён не кахае цябе ўсёй душой.

***

Не прыкладай столькі намаганняў, усё самае лепшае здарэцца нечакана.

***

Я кахаю цябе не за тое, хто ты, а за тое, хто я, калі я з табой.

***

Заўсёды знойдуцца людзі, якія зробяць табе балюча. Трэба працягваць верыць людзям, проста быць трохі больш асцярожным.

***

Стань лепшым і сам зразумей, хто ты, перш чым сустрэнеш новага чалавека і будзеш спадзявацца, што ён цябе зразумее.



## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ АСТРАЎЦА

Фота Юрыя ГОРАДА.

Замятаем сляды.



## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці хацелі б вы, каб установы ў Маладзечне былі беларускамоўныя?

**Тамара Панова, пенсіянерка:**

– Канешне, трэба, каб былі беларускамоўныя ўстановы. Гэта павінны быць дзіцячыя садкі, школы. Раней так і было, напрыклад, у першай школе.

**Ірына Часноўская, аддзелачніца:**

– Я сама з Расіі, таму мовы не ведаю. Але мне хацелася, каб мае дзеці ведалі беларускую мову, бо яны нарадзіліся ў Беларусі. Кожны народ павінен шанаваць сваю мову, размаўляць на ёй. Шкада, што ў нашай краіне гэта не так.

**Анатоль Кісель, майстар вытворчага навучання:**

– Я не супраць такіх устаноў. Раней такімі ўстановамі былі школы. На сённяшні дзень не ведаю, ці засталіся яны. Для дарослых людзей гэта могуць быць клубы па інтарэсах.

**Віктар Смірноў, намеснік дырэктара:**

– Усё гэта трэба рабіць з дзіцячага садка, са школ. Але на гэта трэба згода бацькоў і іх жаданне, каб дзеці размаўлялі на беларускай мове. Пераломваць мову дарослых людзей надзвычай складана. Ды і рабіць гэтага не трэба.

**Ларыса Яршэвіч, пенсіянерка:**

– Я была б не супраць, каб усе размаўлялі па-беларуску. Сама жыла ў вёсцы, вывучала мову ў школе. Пазней прывіла любоў да роднага слова сваёй дачцэ, яна скончыла філфак па спецыяльнасці беларуская філалогія. Кожны народ павінен размаўляць на сваёй мове, і мы не выключэнне.

**Уладзімір Сідаровіч, брыгадзір:**

– У нас большасць кантактуе паміж сабой на рускай мове. Таму лічу, што беларуская не вытрымае такой канкурэнцыі. Але, калі б з'явіліся такія ўстановы, людзі б усё роўна разумелі адзін аднаго.

**Надзея Чаеўская, пенсіянерка:**

– Я ўжо не змагу размаўляць на беларускай мове, узрост не той. Але ўнукі імкнуцца размаўляць па-беларуску. Калі б стварылі такія ўстановы, было б вельмі добра.

**Галіна СІНІЦА.**

## Папраўка

У папярэднім нумары дапушчаная недакладнасць. Апытанне таксама праводзілася ў Маладзечне.

Рэгіянальная газета

Выходзіць па пятніцах. Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 6200 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска). Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях.
У розніцу – цана свабодная.
№ 29 (951) 19.07.2013.
Друкарня ТДА "Знамение", г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14.
Ліц. на права ажыццяўлення друкарскай дзейнасці №02330 /0150475 от 25.02.2009 г. Зак. 635. Падпісана ў друк у 10.00 18.07.2013.

Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.
Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі РБ.